АДНА ЗЯМЛЯ

Маладзечна, Вілейка, Смаргонь, Ашмяны, Валожын, Мядзел, Астравец, Мінск

# Рэгіянальная газета

14 – 20 МАЯ 1999 ГОДА
ВЫХОДЗІЦЬ ПА ПЯТНІЦАХ
ЦАНА 20000 РУБЛЁЎ
№20 (212)

«Рэгіянальная газета» вымушана змяніць электронны адрас (паштовы сервер, якім мы карысталіся, закрыты). Новы наш адрас падобны на ранейшы:
**region_news@irex.minsk.by**

АСТРАВЕЦ

## Бюджэт папоўняць іншаземцы

*Нядаўна мясцовы райвыканком прыняў рашэнне "аб замежных аўтаўладальніках".*

Згодна з ім, уладальнікі транспартных сродкаў з іншых краін пры ўездзе на тэрыторыю раёна праз пункты пагранічнага і мытнага кантролю "Лоша" і "Катлоўка" вымушаны будуць плаціць дарожны збор. Уладальнікі легкавых аўто – 5 доляраў ЗША, а грузавых – 10.

*Мар'ян ВЯНГРОЎСКІ.*

ВАЛОЖЫН

## Паслугамі за тавары

*Канкурэнцыю камісіёнцы стварыў мясцовы Дом быту. Бытавікі пачалі прымаць на камісію ўжываныя адзенне і абутак.*

У адрозненне ад камісійнага аддзела ўнівермага, бытавікі мяркуюць развозіць тавары па комплексна–прыёмных пунктах раёна. А разлічвацца са здатчыкамі на выбары – ці грашыма, ці сваімі бытавымі паслугамі.

*Наталля ШТЭЙНЕР.*

МЯДЗЕЛ

## Дыктарамі працуюць птушкі

*У СШ №2 запрацавала сваё радыё.*

На перапынках яно расказвае пра школьныя падзеі, перадае віншаванні. Мае рубрыкі і раздзелы. Таксама па школьных калідорах гучыць запісанае на плёнку шчабятанне птушак.

*Алесь ВЫСОЦКІ.*

АШМЯНЫ

## Супермэн у вучылішчы

*У мясцовым ПТВ–192 прайшоў конкурс "Супермэн года", які арганізавала дырэкцыя гэтай установы.*

Конкурс праходзіў па спартыўных намінацыях і ўключаў падняцце гіры, армрэслінг, бег і іншае. У кожным спаборніцтве юнакі мелі магчымасць паказаць, на што яны здатныя. Пераможцам журы прызнала **Андрэя Кавалеўскага**.

Цяпер у вучылішчы ёсць свой супермэн, які па праве ганарыцца выкладчыцкі састаў, а дзяўчаты не супраць "вока пакласці" на такога хлопца.

*Мар'ян ВЯНГРОЎСКІ.*

ВАЛОЖЫН

## Лазня падаражэла

ВАЛОЖЫН. У гарадской лазні падаражалі білеты. Каштавалі 10 тысяч за ўваход – сталі 20. Для пенсіянераў адпаведныя сумы 8 і 15. Гэта самыя танныя паслугі ў раёне.

*Наталля ШТЭЙНЕР.*

МАЛАДЗЕЧНА

## Мясцовыя камуністы – за СССР

*Тут у гонар 54–й гадавіны дня Перамогі адбыліся, арганізаваныя мясцовай уладай і прадстаўнікамі гарадскіх і раённых арганізацый КПБ і БПСМ, шэсце і мітынг–рэквіем.*

Адкрыў мерапрыемства старшыня гарвыканкома **Станіслаў Татарыновіч**, які павіншаваў ветэранаў вайны са святам. Дзякуючы выступленням прадстаўнікоў левай арыентацыі, у тым ліку першых сакратароў раённага і гарадскога КПБ **Уладзіслава Осіпава** і **Анатоля Карпенкі,** мерапрыемства набыло антызаходнюю і антысіяністцкую скіраванасць.

Анатоль Карпенка абвінаваціў у развале КПСС і СССР заходнія краіны і сіяністаў, "якія былі і цяпер знаходзяцца пры ўладзе, асабліва, у Расіі". Уладзіслаў Осіпаў выступіў супраць ЗША і іншых краін Захаду і заклікаў да стварэння СССР як гаранта паляпшэння жыцця.

Далейшае святкаванне працягнулася ў гарадскім парку, дзе перад жыхарамі горада выступілі акадэмічны ансамбль песні і танца ўзброеных сіл РБ, а таксама мясцовыя мастацкія калектывы "Спадчына" і "Магістраль".

*Алесь ЦАДКО.*



ДА 400–ГОДДЗЯ ВІЛЕЙКІ

## Вілейку ўпрыгожвае аркестр Фёдара Гура

*ВІЛЕЙКА. Узорны духавы аркестр школы мастацтваў, якім кіруе* ***Фёдар Гур****, возьме ўдзел у абласным аглядзе–конкурсе духавых аркестраў "Майскі вальс", які пройдзе ў Слуцку 22– 23 мая.*

Музыкантам па спецзаказе пашылі новыя касцюмы: зялёна–чырвоныя з залатымі эпалетамі. А нядаўна духавікі справілі свой юбілей – 10 год творчасці. Канцэрт праходзіў пры аншлагу.

Вілейчане лічаць, што духавы аркестр упрыгожвае горад.

*Аддзел інфармацыі.*



*Маэстра Гур у роздуме. На сустрэчы з выпускнікамі Вілейскай школы мастацтваў 22 студзеня г.г.*

ФОТА АЛЯКСАНДРА МАНЦЭВІЧА.



*Музыканты аркестра у чаканні ўзмаху дырыжорскай палачкі. На 10–годдзі аркестра. Красавік 1999 года.*

ФОТА П.А.ПАРАЦЫ.



КОНКУРСЫ

## Ашмянскія эрудыты

*АШМЯНЫ. На конкурсе інтэлектуальных гульняў сярод вучняў сярэдніх школ горада, які праводзіў Цэнтр пазашкольнай работы, найбольш эрудзіраванай аказалася каманда «Вікторыя» і вучні СШ №2.*

Менавіта яны найбольш дакладна і правільна адказалі на пытанні, звязаныя з біяграфіямі паэтаў Міцкевіча і Пушкіна, гісторыяй Беларусі, і нават на тыя пытанні, што тычыліся сучаснай рэкламы.

Такія конкурсы мяркуецца праводзіць рэгулярна.

*Мар'ян ВЯНГРОЎСКІ.*

ДРОБЯЗІ

## Калі не хочуць браць грошы

*ВІЛЕЙКА. У аддзяленнях Беларусбанка горада бывае немагчымым зрабіць камунальныя плацяжы.*

Разумеючы, што любы чалавек, ведаючы тое, куды і колькі яму трэба заплаціць грошай, можа гэта зрабіць, я накіраваўся ў аддзяленне Беларусбанка (чытай – ашчадную касу) заплаціць за кватэру. На жаль, у першы, другі раз не змог гэтага зрабіць. Такі самы вынік атрымаўся і ў маёй дачкі. У банку няма бланка тыпавой формы № ПД–1А, якія можна ўзяць толькі ў бухгалтэрыі ЖЭУ. Але пайсці туды ў суботу, як у ашчадкасу, немагчыма – выхадны. Прыйшлося напляваць на работу і ісці ў кантору за паперкай у будзень. Праблема, здаецца, вырашылася.

Начальнік ЖЭУ **Сяргей Новаш** па тэлефоне пераканаў мяне ў тым, што банк сапраўды павінен быў прыняць ад мяне плацеж на любым бланку, маўляў, існуе такая дамоўленасць паміж імі. Магчыма, і так. Урэшце, у мяне можа не быць дзяцей, ці я не хачу загружаць сваімі праблемамі суседзяў, як параіла зрабіць мне бухгалтар камунальнікаў.

Звяртаюся да кіраўніка Беларусбанка ў Вілейца **Аляксандра Паліўкі**. Ён мне тлумачыць, што са мной паступілі абсалютна правільна, бо дагаворнымі адносінамі паміж банкам і камунальнікамі не прадугледжана даваць такія бланкі кліентам у банку. І гэта, кажа суразмоўца, лагічна. Бо як спагнаць запазычанасць з таго ці іншага гараджаніна? Што ўзімку вілейчане мерзлі ў кватэрах з–за таго, што былі вялізныя запазычанасці па камунальных плацяжах. Урэшце, для мяне, як прынцыповага кліента, ён аддасць свой бланк.

Для мяне такая логіка абсалютна незразумелая. Я не хачу, каб у маёй асобе, калі я прыду плаціць грошы за тую ці іншую паслугу, бачылі непрыстойнага чалавека. А на месцы, г. зн. у ЖЭУ, як мне таго параіў зрабіць Аляксандр Паліўка, заплаціць я не змог. У 9.05 раніцы у мінулую сераду там плацяжы не прымаліся. Я не хачу быць прынцыповым кліентам. Я хачу проста прыйсці і заплаціць грошы, з якіх жывуць камунальнікі, але і банкі таксама. Калі няма бланка формы ПД–1А дайце мне іншы стандартны бланк на прыём плацяжу. Мне застанецца толькі запоўніць яго. Раблю ж я тое самае, расплачваючыся за газ ці ваду. Аляксандр Паліўка ў размове пашкадаваў, што патраціў на тлумачэнне мне сітуацыі, час. Я шкадую свой час таксама. Мяркую, што не адзін я. Няўжо такую дробязь як бланк нельга пакласці перад кліентам?

*Мікола ГАЙДУК.*

СТАРЫ АЛЬБОМ

## На апошнім паверсе



*Май 1966 года. Закончана кладка апошняга паверха 64— кватэрнага жылога дома па вуліцы Рэвалюцыйнай у Маладзечне (цяпер імя Прытыцкага). Іван Александровіч кладзе апошнюю цагліну. Газета "Святло камунізму" пісала 28 мая 1966 года: Калектыў будаўнікоў БУ—64 "Маладзечнасельбуд", які ўзначальвае прараб Валерый Шатыронак, абавязаўся здаць жылы дом на квартал раней устаноўленага тэрміну. Выдатна папрацаваў на ўзвядзенні гэтага будынка муляр Іван Александровіч.*

*За спіной героя здымка, якога заспеў на будоўлі фотакор "Святла камунізму" Міхаіл Асаевіч, будынак рэстарана "Папараць—кветка".*

ФОТА З АЛЬБОМА МІХАІЛА АСАЕВІЧА.

КУЛЬТУРА

## Пераадолей сваю немач



*Выступае мужчынская вакальная група культурна—рэабілітацыйнага цэнтра Беларускага таварыства інвалідаў па зроку. Кіраўнік Леанід Алейнік, удзельнікі: Уладзімір Комар, Станіслаў Красоўскі, Леў Ляпіч, Мікалай Бохан, Канстанцін Аляшкевіч.*

ФОТА З АРХІВА РГ.

МАЛАДЗЕЧНА. Культурна–рэабілітацыйны цэнтр Беларускага таварыства інвалідаў па зроку (дырэктар **Іван Радзіловіч**) дапамагае работнікам прадпрыемства псіхалагічна пераадолець іх немач. 70–75% ад агульнай колькасці работнікаў далучаны да культурнай, спартыўнай дзейнасці, работы гурткоў і клубаў. Метадыст КРЦ **Марына Няхайчык** гаворыць, што на БелТІЗе працуе каля 400 інвалідаў I–II групы. І ўсе яны праходзяць праз цэнтр.

Званне народнага маюць хор, ансамбль баяністаў (сляпыя), драмтэатр. Лаўрэатаў – вакальны квартэт, вакальна–інструментальны ансамбль. А сярод шматлікіх клубаў ёсць і спецыфічныя. Напрыклад, аматараў рыбнай лоўлі.

Актыўных людзей на аб'яднанні дзесяткі. **Уладзімір Зданкевіч** – спартсмен і музыкант, **Валерый Мілічэнка** – шахматыст і баяніст. Ну, а прозвішча **Аляксея Філіпава**, чэмпіёна свету па міні–футболе, ва ўсіх на слыху.

*Аддзел інфармацыі.*

ПАВЕДАМЛЯЕ БЕЛАПАН

### НА ДУМКУ МЕЧАСЛАВА ГРЫБА, ВЫЗВАЛЕННЕ АД ПАСАДЫ Я.ПРЫМАКОВА СТАНЕ СТАНОЎЧЫМ КРОКАМ ДЛЯ ЗАХАВАННЯ СУВЕРЭНІТЭТУ БЕЛАРУСІ

*Мінск, 12 мая. "Адстаўка Яўгена Прымакова стане станоўчым крокам для захавання суверэнітэту Рэспублікі Беларусь", -- заявіў у інтэрв'ю карэспандэнту БелаПАН выконваючы абавязкі старшыні Нацыянальнага выканаўчага камітэта ("ценявога" урада) Беларусі Мечаслаў Грыб.*

На яго думку, былы кіраўнік расійскага ўраду рабіў вельмі шмат для таго, каб, насуперак нацыянальным інтарэсам Беларусі, "уцягнуць нашу краіну ў сферу інтарэсаў Расіі". Наступствы такіх намаганняў маглі б аказацца вельмі сумнымі для Беларусі.

Выконваючы абавязкі кіраўніка НВК таксама адзначыў асаблівую блізкасць пазіцый Яўгена Прымакова і Аляксандра Лукашэнкі. Апошні неаднаразова называў Яўгена Максімавіча сваім настаўнікам, а, выступаючы напярэдадні Дня Перамогі ў Валгаградзе, гаварыў пра непажаданасць адстаўкі Я.Прымакова. Хаця, як заўважыў Мечаслаў Грыб, "меркаванні Лукашэнкі па гэтым пытанні ніхто там не пытаўся".

Што тычыцца выконваючага абавязкі кіраўніка расійскага ўрада Сяргея Сцяпашына, то М.Грыб паведаміў, што ён знаёмы з ім з 1990 года. У той час С.Сцяпашын з'яўляўся старшынёй Камітэта па абароне расійскага парламента, а М.Грыб кіраваў Камітэтам па абароне і нацыянальнай бяспецы Вярхоўнага Савета Беларусі 12-га склікання. Яны часта размаўлялі, кантактавалі на розных міжнародных канферэнцыях і семінарах. М.Грыб адзначыў у С.Сцяпашыне перш за ўсё такія якасці, як "спакой, вытрымку, ураўнаважанасць, высокі прафесіяналізм".

*Уладзімір ГЛОД, БелаПАН.*

### АДСТАЎКА ПРЫМАКОВА МОЖА НЕГАТЫЎНА АДБІЦЦА НА АЖЫЦЦЯЎЛЕННІ БЕЛАРУСКА-РАСІЙСКІХ ЭКАНАМІЧНЫХ ПРАЕКТАЎ, ЛІЧАЦЬ У КІРАЎНІЦТВЕ БЕЛАРУСІ

*Мінск, 12 мая. Адстаўка Яўгена Прымакова з пасады старшыні ўраду Расійскай Федэрацыі можа негатыўна адбіцца на ажыццяўленні канкрэтных эканамічных праектаў у межах Саюза Беларусі і Расіі.*

Пра гэта заявіў 12 мая ў гутарцы з журналістамі намеснік кіраўніка адміністрацыі прэзідэнта Беларусі Іван Пашкевіч. Паводле ягоных слоў, частая змена кіраўніцтва расійскага ўраду -- не на карысць рэалізацыі стратэгічных накірункаў развіцця эканомікі гэтай краіны. Адначасова, на думку І.Пашкевіча, кадравыя перастаноўкі ў расійскім урадзе не паўплываюць на ідэю станаўлення саюза дзвюх дзяржаў.

*Аляксей ПАПОВІЧ, БелаПАН.*

КРАЯЗНАЎСТВА

## Філантроп

*Летась споўнілася 225 гаод з дня нараджэння Яна Цывіньскага. На Беларусі вядомыя імёны некалькіх людзей, якія пад уплывам ідэй філосафаў-утапістаў і асветнікаў імкнуліся забяспечыць сваім падданым сялянам лепшае жыццё, даць іх дзецям адукацыю. Гэта Яўхім Літавор Храптовіч (Шчорсы), Павел Ксаверы Бжастоўскі (Мерач), Мікалай Румянцаў (Гомельшчына) і Дамінік Манюшка (Роткаўшчына).*

На гэтым фоне ў ценю застаецца Ян Цывіньскі, які амаль за 25 гадоў да адмены прыгоннага права ў Расійскай імперыі ў сваіх памесцях Кузьмічы (цяпер Нарацкі сельсавет), Матыкі (Крывіцкі гарпассавет) на Мядзельшчыне 29 красавіка 1846 года ўсім сялянам дараваў даўгі і выдаў вольную; а калі хто добраахвотна не захацеў вольнай - на 1/3 зменшыў чынш і іншыя павіннасці. Сваім спадчыннікам у тэстаменце адзначыў, каб «не ўладарамі былі над сялянамі, а апекунамі».

Яшчэ варта адзначыць дабрачыннасць гэтага чалавека. Дзякуючы яго ініцыятыве, у 1826 годзе ў мястэчку Гадуцішкі (цяпер Літва) пры касцёле будуецца школа для вясковых і местачковых дзетак. 24 мая 1835 года сумесна з пляменніцай Францішкай Мількоўскай адпускае сродкі для выхавання 12 дзяўчынак з бедных сем'яў.

Як актыўнага заступніка бедных, яго 28 чэрвеня 1843 года выбіраюць прэзідэнтам Віленскага Таварыства Дабрачыннасці. Са сваіх маёнткаў ён штогод адпускаў па 200 руб. у мясцовую касу для дапамогі збяднелым сялянам у навучанні дзяцей чытанню і пісьму. У тэстаменце ўстанавіў фонд на бясплатнае навучанне ў Віленскіх школах 24 дзяцей (12 хлопчыкаў і 12 дзяўчынак) і 2 алюмны навучэнцам у семінарыі (алюмн - поўнае забеспячэнне навучэнца: вучоба, кватэра, ежа, адзенне).

Нарадзіўся Ян Цывіньскі 24 красавіка 1772 года ў вёсцы Кузьмічы (Нарацкі с/с). Бацька яго быў дэпутатам Трыбунала (вышэйшага апеляцыйнага суда) Вялікага Княства Літоўскага і Польшчы. Радавы герб іх - Пухала, які ўяўляў сабой падкову, што стаіць наском уверх, на ёй - паўтраця крыжавін (з левага боку не хапае адной перакладзіны), шчыт блакітнага колеру, а сама выява - залатая.

Дзяцінства Яна прайшло ў Кузьмічах, тут ён ад маці Апалёніі з Радзевічаў атрымаў першапачатковую адукацыю, потым вучыўся ў Беразвеччы (Глыбоцкі раён) (1781-1788) і Вішневе (Валожынскі раён) (1786-1788). У 1790 годзе паступае ў Саюз місіянераў і на вучобу ў Віленскую духоўную семінарыю. Дапытлівы і здольны хлопчык адначасова наведвае вольнаслухачом лекцыі на факультэце маралі і палітыкі Віленскага ўніверсітэта, займаецца самаадукацыяй па філасофіі.

Пасля заканчэння семінарыі 5 ліпеня 1795 года яго высвенчваюць на ксяндза і прызначаюць прафесарам Віленскай духоўнай семінарыі, дзе ён на працягу 21 года выкладае філасофію, спевы і абраднасць. На працягу 16 год Ян Цывіньскі быў засядацелем у кансісторыі - нарадзе кардыналаў.

«Хуткі розумам», ён у 1818 годзе здаў экстэрнам экзамены ў Полацкай езуіцкай акадэміі і атрымаў «патэнт доктара філасофіі і права».

Ад 1820 года, ён 9 разоў выбіраецца дэпутатам губернскага суда; як вопытны і высокаадукаваны чалавек доўгі час быў дарадцам біскупаў Касакоўскага і Клангевіча.

Пасля смерці Трохскага суфрагана ён у 1838 годзе займае яго месца, а 24 жніўня 1841 года атрымлівае біскупскую сакру і тытул біскупа. Памер Ян Цывіньскі 17 лістапада 1846 года.

Філантроп - так можна ахарактарызаваць яго дзейнасць.

*Іван ДРАЎНІЦКІ,*
*Мядзельскі раён.*

КУЛЬТУРА

## Лепшым – святочныя пляцоўкі

ВІЛЕЙКА. Да юбілею горада прымеркаваны фестываль дзіцячай мастацкай творчасці. Паказалі свае праграмы агульнаадукацыйныя школы. 19 мая – чарга школы мастацтваў.

Гледачам асабліва падабаліся выступленні артыстаў з СШ №1, 3, 6, гімназіі. Лепшыя нумары будуць і на святе горада. Многія ўдзельнікі фестывалю праграмы будавалі на гістарычных матэрыялах.

*Аддзел інфармацыі.*

ШТО ПРА НАС ПІСАЛІ 90 ГОД ТАМУ

## У Вілейцы буяняць

**Вілейка (павет) Віленскай губ.**

Гэтымі днямі ў блізкім ад гораду лясочку знайшлі каля двух гадкоў дзяўчынку с крыжыкам на шыйцы. Хто яна і хто яе туды палажыў – невядома. Яе адаслалі ў Віленскі прыют для дзяцей.

10 мая, пад вечар, знаны тутэйшы зладзей пачаў біць шыбы ў піўной. Адтуль выскачыла цэлая сям'я – душ пяць і счапіліся з ім. Хто каго піў – трудна было разгледзіць! Але калі народ с крыкам разступіўся, то на зямлі ўжо валяўся ўвесь у крыві і чуць жывы гаспадар піўной, а як цераз гадзіну прывялі доктара, – рады ня трэба было: зранены нажом у сэрцэ ўжо ня жыў. Роспач маткі, жонкі, дзяцей і сясцёр забітага – трудна апісаць. Буяна арэштавалі.

К–тя.

**В. Путнікі, Віленскай губ. Вілейскага пав. (каля м. Радашковіч).**

Хто гляне на нашы засеяныя жытам шнуры, – сэрцэ кроўю абліваецца: чорнае галюсенькае поле. Але вось дзіва: чаму сярод гэтаго знішчэньня крывавай людзкой працы 2–3 шнуркі як зялёным густым аксамітам пакрыліся? Чы можэ ў лепшы час трафілі пасеяць, бо зямліца скрось роўная, – чы мо' лепей выроблена, а можа гнайку падсыпалі? – Ой, гэты гнаёк – праўдзівы хлебок! Не ўмеем мы яго толькі ані збіраць, ані шанаваць.

Путнічок.

**М. Даўтіново Віленскай губ. Вілейскага пав.**

Даўно ўжо не было ў нашым мястэчку такога кірмашу на шостнік (7 мая), як сёлета. Таргавалі добра, а найбольш манаполькі. Торг скончыўся: стражнікі і вураднікі гарцавалі па вуліцах і выпраўлялі гуляк да хаты "па добраму". У мужыка Гайлы – з вёскі Шубіцы ўкралі зэгарэк за 18 руб. Цяпер і без зэгарка ён будзе добра помніць гэту гадзіну.

3–яго Мая праляцеў над нашым мястэчкам чырвоны пятух: згарэла тры хаты, два хлевы і сьвірэн. Баранілі габрэі, як мага, а хрысьціяне толькі падкпівалі. Вураднік стаў падганяць і заусердзіе дастаў ад новаго нашаго земскаго новы знак "отлічыя", навэт два. Назаўтра земскі паслаў стражніка зьбіраць складчыну на пагарэльцаў: меж габрэяў сабралі 40 рублёў; хрысьціяне ад складчыны адмовіліся...

В. Сос–кі.

*Першая Беларуская Газета з Рысункамі "Наша Ніва" №20 ад 14 мая.*

*Падрыхтаваў*
*Алесь ВЫСОЦКІ.*

 



СІТУАЦЫЯ

# Жыццё маладзечанскага рынку

*МАЛАДЗЕЧНА. У мінулым нумары "РГ" расказала пра забастоўку гандляроў на гарадскім рэчавым рынку. Эмоцыі з таго часу пасціхалі, але праблемы засталіся. Натуральна, што складанасці з набыццём сертыфікатаў якасці на тавар (справа, дарэчы, сама па сабе добрая, яна ставіць на мэце абараніць правы пакупнікоў) сталі толькі апошняй кропляй, якая перапоўніла чашу цярплівасці.*



*Непрададзены тавар і палаткі гандляры здаюць у камеру захоўвання.*

ФОТА СВЯТЛАНЫ САРОКІ.

Падаткі растуць. Сёння прадпрымальнікі–гандляры плацяць 5 мільёнаў рублёў фіксаванага, плюс да гэтага падатак з сумы, якая перавышае абумоўлены даход. Штомесяц расце кошт месцаў на рынку, плата за камеры захоўвання. Апошнім часам гэта адпаведна 3,9 ды 1,1 мільёна за ячэйку плюс 650 тысяч за захоўванне палаткі.

Выдаткі за праезд часцей за ўсё не ўлічваюцца пры вызначэнні расходаў. Набыць рэчы за межамі Беларусі можна толькі за СКВ. І ніхто на танны тавар прыходныя квіткі не выпіша. А браць дарагі ў крамах нявыгадна. Вось і атрымліваецца, што выдаткаў у прадпрымальнікаў быццам няма. Адныя даходы. А з даходаў адпаведныя і падаткі.

Гэта клапоціць толькі саміх гандляроў. Між тым, ціск на вольнае абарачэнне сярод насельніцтва замежнай валюты ўзмацняецца. Сталі рэгулярнымі рэйды–праверкі работнікаў праваахоўных органаў, пры якіх спыняюцца любыя спробы карыстання "зялёнай" валютай.

З іншага боку, праваахоўныя органы – гэта звычайныя людзі, якія выконваюць свае абавязкі. Вось толькі сродкі, якімі дасягаецца мэта, людзі не хочуць успрымаць як належнае.

. Ніхто не супраць падаткаў – памер іх павінен быць разумны. Гандлярам нічога не застанецца, як яшчэ больш уздымаць цэны, рабіць іх зусім недаступнымі для беларусаў.

Праверкі за праверкамі могуць дазваць сродкі ў бюджэт толькі часовыя. А што потым?

Здзіўляюцца нават работнікі выканкомаў – хто–хто, а яны цудоўна ведаюць, што такой дзерганінай бюджэт не напоўніш. А былыя работнікі падатковай інспекцыі з задавальненнем раскажуць вам, што раней ад іх патрабавалі работу на папярэджванне памылак. Цяпер жа інспектар пры праверцы мае арыенцір – суму, на якую ён мусіць аштрафаваць правяраемую арганізацыю.

**Павел С.** кажа, што ў выніку адной з праверак у яго канфіскавалі тавару на 76 мільёнаў рублёў ды яшчэ прызначылі штраф у 25 мільёнаў рублёў.

– Не буду плаціць. І ўсё... Няхай што хочуць, тое і робяць.

– Нас за людзей не лічаць. Мы звычайнае быдла, – крычыць уз'юшаная жанчына. – Навошта з намі гэтак абыходзіцца? Калі нічога нельга, дык лепш закрыць рынак. Ці дайце магчымасць працаваць, каб на жыццё хапала.

Штодзённа (акрамя панядзелка і аўторка) на рынку з'яўляецца 540–560 палатак. Прыблізна ў 40% з іх працуюць па два прадаўцы. Гэта людзі, якім ніхто не дапамагаў, яны не пайшлі на "біржу працы", а самі для сябе знайшлі работу, з яе кормяцца, па дзяржаўную дапамогу не звяртаюцца. У асноўным, яны прыйшлі сюды пасля таго, як апынуліся за дзвярыма некалі славутых буйных прадпрыемстваў. Значная частка мае вышэйшую і сярэднеспецыяльную адукацыю, ёсць сапраўдныя інтэлігенты.

– Ведаеце, – кажа жанчына, на выгляд, пенсійнага ўзросту, – нават за тое, каб схадзіць у туалет рукі памыць, нам трэба кожны раз плаціць 5 тысяч, як звычайным наведвальнікам. Мы ж не супрацоўнікі рынку. Мы людзі, якія не маюць ніякіх праваў. Ці, можа, мы іх не ведаем?

Пытаюся пра прафсаюз гандляроў у дырэктара рынку **Рыгора Шарэпы**. Ён здзіўлены:

– Забудзьце мінулае. Мы не пры сацыялізме жывем. Гэта рынак. Рынак КП "Кірмаш" яшчэ не горш за іншыя, – упэўнены дырэктар. – Месца на рынку ў "Лебядзіным" каштуе 35 мільёнаў. Наш вельмі танны. І тым не менш, штомесяц плацім падаткаў на 300 мільёнаў рублёў, за камунальныя паслугі – яшчэ 260 мільёнаў. Прыбыткі невялікія: 7–15 мільёнаў рублёў у месяц, бо яшчэ крэдыты не аплачаныя. Вярнулі пакуль 28% з тых, што бралі на будоўлю.

– Людзі сцвярджаюць, што ў камерах захоўвання здараюцца крадзяжы. І міліцыя нічога не можа зрабіць.

– Крадуць найчасцей самі ў сябе, – адказвае Р. Шарэпа. – Я ўмовы паставіў: адказваем за захоўванне толькі тады, калі сумкі апячатаныя. Вы б лепш чым іхнія скаргі слухаць, дапамаглі прыцягнуць гандляроў у наш мясны павільён.

. А мясны павільён, як многія ведаюць, сапраўды вельмі добры. Светлае і прасторнае памяшканне з прылаўкамі, складскімі памяшканнямі, раздзелачнай, халадзільнікамі. Нават цялежкі для развозу прадугледжаныя. Словам, усё на добрым узроўні. Умовы створаныя, а вось гандляроў мала.

Апошнія чамусьці аддаюць перавагу калгаснаму рынку, дзе і месца каштуе больш, і ўмовы больш сціплыя. Асноўныя гандляры мясам на калгасным рынку – вяскоўцы. Яны з вакзала ідуць адразу сюды. І ім не патрэбныя пасведчанні прадпрымальнікаў. Ёсць даведкі ад ветурача ды з сельсавета – і ўсё.

. Фірмы ды іншыя СП, на якіх разлічаны мясны павільён у 6–м мікрараёне, чамусьці "трымаюцца ў цяню". Можа, не могуць канкурыраваць з вясковымі вытворцамі, у якіх няма пасрэднікаў, і над якімі не ззяе "усюдыіснае вока" збіральнікаў падаткаў. Калгасны рынак прываблівае не толькі гандляроў, але і спажыўцоў, якія пачынаюць усё больш апранацца ў "second-hand", абы не харчавацца нечым адпаведным.

Калі вярсталася газета, у Маладзечне павінна была адбыцца сустрэча прадпрымальнікаў–гандляроў з уладамі. Да апошняй хвіліны заставалася спадзяванне, што праблемы рынку неабыякавыя і для тых, хто прымае рашэнні.

***Святлана САРОКА.***

БАЗАРНЫ ДЗЕНЬ

**МАЛАДЗЕЧНА.** Цэны на прадукты харчавання ў сераду на рынку:

| ПРАДУКТЫ | | ЦАНА (ТЫС. РУБ.) 5.05 | 12.05 |
|---|---|---|---|
| Курыныя кумпячкі | 1 кг | 405 | 415 |
| Кілбаса с/в | 1 кг | 1260 | 1196 |
| Сардэлькі | 1 кг | 587 | 573 |
| Селядзец | 1 кг | 280 | 290-300 |
| Рыс | 1 кг | 200 | 200 |
| Цукар | 1 кг | 143 | 140 |
| Грэчка | 1 кг | 160 | 162 |
| Алей | 1 л | 395 | 390 |
| Яйкі курыныя | 1 дзес. | 110 | 142–160 |
| Маянэз | 250 г | 70–80 | 70–80 |
| Кава "Пеле" | 100 г | 430 | 430 |
| Шпроты, бляшанка | 160 г | 120 | 120 |
| Соус там. «Краск.» | 0,5 л | 110 | 110 |
| Лімоны | 1кг | 480–510 | 500 |
| **СЯЛЯНСКІЯ ПРАДУКТЫ** | | | |
| Смятана | 1 л | 180 | 180-200 |
| Масла | 1 кг | 400 | 500 |
| Тварог | 1 кг | 140 | 150 |
| Малако | 1,5 л | 60 | 50 |
| Бульба | 1 вядро | 300 | 220–250 |
| Яйкі курыныя | 1 дзес. | 150 | 150-170 |

# Формула "прадам–куплю" састарэла

***Мінск, 12 мая. Славацкія бізнесмены, у цэлым, задаволеныя вынікамі сваіх перамоў з прадстаўнікамі беларускіх дзелавых колаў, што прайшлі ў Мінску 11 мая. З беларускага боку ўдзел у перамовах узялі прадстаўнікі больш за 80 беларускіх прадпрыемстваў.***

Як адзначалася на выніковай прэс-канферэнцыі, дасягнутыя дамоўленасці аб працягу прамых кантактаў паміж беларускімі і славацкімі суб'ектамі гаспадарання. У прыватнасці, плануецца пашырыць супрацоўніцтва прадпрыемства "МТГ Рамонт" з горада Вранава з Упраўленнем Беларускай чыгункі па пастаўцы абсталявання для рамонту чыгуначных пуцей; будуць працягнутыперамовы аб магчымасці арганізацыі кааперацыйнай вытворчасці.

На думку гандлёва-эканамічнага саветніка, консула Генеральнага консульства Славакіі ў Беларусі Яна Прыслупскага, ранейшая формула гандлёвага супрацоўніцтва па прынцыпе "прадам--куплю" састарэла; зараз з мэтай асваеннязамежных рынкаў развітыя краіны Еўропы і светувыкарыстоўваюць стратэгію стварэння сумесных вытворчасцяў.

Таму, галоўнай задачай цяперашняй сустрэчы стала спроба пабудовы новых, больш якасных двухбаковых адносінаў у эканоміцы, гандлі і іншых сферах грамадскага жыцця. Як адзначыў **Я. Прыслупскі**, найбольш перспектыўнымі для развіцця гэтай формы эканамічнага супрацоўніцтва паміж Беларуссю і Славакіяй сёння з'яўляюцца абутковая, тэкстыльная, шкляная, харчовая, электратэхнічная і радыётэхнічная прамысловасць. Пажаданая і магчымая таксама кааперацыя ў хімічнай галіне і цяжкім машынабудаванні.

***Ірына САЗАНОВІЧ, БелаПАН.***

«РГ»–СТАТЫСТЫКА

# Хто і як папаўняў бюджэт

СМАРГОНЬ. Найбольш буйнымі падаткаплацельшчыкамі Смаргоншчыны з'яўляюцца агрэгатны завод (пералічыў летась у бюджэт 73,4 мільярда рублёў), АП "Смаргоньсілікатабетон" (46,6 мільярда), ААТ "Смаргонскі камбікормавы завод" і нафтабаза – (па 20 мільярдаў).

Усе сельскагаспадарчыя прадпрыемствы разам заплацілі ў бюджэт толькі 11,4 мільярда рублёў. Прыватнікі і недзяржаўныя структуры ўнеслі яшчэ 47 мільярдаў рублёў (безумоўным лідэрам тут з'яўляецца ТАА "Ліст" – яго ўзнос склаў 6,5 мільярда рублёў).

***Павел МАКЛЮК.***

ЗАХАПЛЕННІ

# Алена хварэе на падарожжы

*МАЛАДЗЕЧНА. **Алена Жызнеўская** – адзіная ў горадзе (а можа, і ў рэгіёне) жанчына–трэнер па ўсходніх адзінаборствах. Пра сваю вілейскую біяграфію субяседніца гаворыць неахвотна. У школе займалася гандболам, паступіла ў інстытут фізкультуры. Вочы загараюцца, калі гаворка пераходзіць на айкідо.*

– У айкідо няма мяжы, – гаворыць Алена, – пакуль рухаешся і працуе галава, трэба займацца. Гэта мастацтва, філасофія.

**– Пад уплывам айкідо ты змяніла свае звычкі, лад жыцця?**

– Як спала на падушцы, так на ёй і сплю. А калі сур'ёзна, я не фанатка. І да ўсяго стаўлюся ўдумліва.

**– Айкідо дапамагала выходзіць са складаных сітуацый?**

– Маладзечанскіх хлопцаў ніколі не крыўдзіла. Наогул, я чалавек неканфліктны. Звычайна "змагаюся" словамі, а не кулакамі. Дарэчы, айкідо – сістэма самаабароны. Тут няма агрэсіі.

**– Спорт дапамагае падтрымліваць форму?**

– У інстытуце я важыла за 60 кілаграмаў. Цяпер вага амаль аднолькавая – 57 кілаграмаў. Акрамя трэнерскай дзейнасці, працую ў інтэрнаце для дзяцей з парушэннямі постаці. Тут у нас шмат трэнажораў. На трэніроўках задзейнічаю адну групу мышцаў, на занятках з дзецьмі лячэбнай фізкультурай – іншую. Усё плюсуецца.

**– Колькі ведаеш прыёмаў, і, наогул, твае спартыўныя дасягненні?**

– Што тычыцца прыёмаў, ведаю дзесьці сотню–другую. Справа ў тым, што прыёмы можна прыдумваць самому. З жыцця. Але я выкарыстоўваю тое, што прыдумалі іншыя. А ў фізічнай падрыхтоўцы ніколі не ставіла на мэце падцягнуцца на перакладзіне вось столькі разоў ці адціснуцца ад падлогі. Колькі трэба, столькі зраблю.

**– Акрамя спорту, ёсць у жанчыны–трэнера непрафесійныя захапленні?**

– Люблю добрую музыку. Прычым, розных жанраў. Люблю падарожнічаць. Была ў Польшчы, Германіі, Балгарыі, Румыніі. Аб'ездзіла ўсю Прыбалтыку. Было б дастаткова грошай, бо падарожжы – мая "хвароба".

***Віталь КРУПЯНЬКОЎ.***



*Алена Жызнеўская.*

ФОТА ВІТАЛЯ КРУПЯНЬКОВА.

КРЫМІНАЛ, ЗДАРЭННІ, ХРОНІКА

# Забіты сын знаходзіўся ля дома

АСТРАВЕЦ. Жудаснае злачынства раскрылі праваахоўныя органы Астравеччыны.

У вёсцы Гіры знайшлі закапаны ля ўласнага дома труп 23–гадовага хлопца. Папярэдне ўстаноўлена, што яго забойцам з'яўляецца ўласная маці.

Яшчэ ў мінулым годзе ў адзін са снежаньскіх вечароў яна падчас сваркі і зрабіла сваю чорную справу. Каб схаваць сляды злачынства, закапала труп сына непадалёку ад хаты.

Малодшым дзецям (усяго ў жанчыны іх было 8) яна паведаміла, што за старэйшым братам прыязджалі сябры, і ён паехаў з імі ўладкоўвацца на работу ў Ліду. У тыя дні, калі малодшых дзяцей не было дома, яна прыхоўвала ежу, адзенне сына, а дзецям казала, што ў іх адсутнасць брат наведваўся дамоў...

Жанчыну чакае суд.

***Мар'ян ВЯНГРОЎСКІ.***

# Сумныя знаходкі ў вадзе

ВАЛОЖЫН. Жыхар вёскі Вялікая Дайнава, які значыўся ў вышуку, знойдзены. Яго труп, вылавілі ў рацэ ля вёскі Барок, што на Маладзечаншчыне.

А ў Вуглах у асабістым калодзежы ўтапіўся вясковец.

***Наталля ШТЭЙНЕР.***



 

*У ВОЛЬНУЮ ХВІЛІНУ*

# Чайнворд "Р"




1. Спецыяліст па рэстаўрацыі. 2. Прадстаўнік ваенна–землеўладальніцкага саслоўя ў сярэдневяковай Еўропе. 3. Ручная агнястрэльная зброя. 4. Той, хто дапамагае засвойваць веды. 5. Труба з расшыраным канцом для ўзмацнення гуку. 6. Спецыяліст па падпраўцы фотаздымкаў. 7. Апарат, які дзейнічае на аснове фізічных або хімічных рэакцый. 8. Пераўтваральнік. 9. Радыёлакатар. 10. Афіцэрскі чын у кавалерыі. 11. Пастаноўшчык спектакляў, фільмаў. 12. Майстар, які вырабляе раменную вупраж. 13. Ёмістасць для вадкасцяў і газаў. 14. Награвальны прыбор у сістэме ацяплення. 15. Работнік газеты, радыё. 16. Апарат для друкаванння копій чарцяжоў. 17. Чалавек, які любіць весці доўгія размовы навучальнага характару. 18. Састаўная частка электрычных машын, турбін. 19. Спіс, пералік. 20. Кіраўнік выдання газеты, часопіса. 21. Аратар, красамоўца. 22. Кіраўнік вышэйшай навучальнай установы. 23. Частка халадзільнай машыны. 24. Ступень вышыні голасу, гучання музычнага інструмента. 25. Прадстаўнік маладзёжнай групіроўкі, які любіць катацца на матацыклах. 26. Кантралёр на чыгунцы. 27. Пастаноўка людзей па росце ў адну шарэнгу. 28. Прыстасаванне для аховы органаў дыхання ад пылу і шкодных рэчаў. 29. Падбор п'ес, якія ідуць у тэатры ў пэўны прамежак часу.

*Падрыхтавала Ірына БУЦЕР.*

***Адказы на крыжаванку, змешчаную ў № 19.***

**Па гарызанталях:** 1. Кораб. 2. Аспід. 7. Антыпод. 10. Кабол. 11. Варум. 12. Інтрыга. 13. Смерд. 16. Радар. 19. Ангар. 22. Сабор. 23. Опера. 24. Экран. 25. Аркан. 26. Дрэва. 27. Асада. 30. Агент. 33. Тапаз. 36. Рэмарка. 37. Траса. 38. Рымар. 39. Красала. 40. Атлет. 41. Норма.

**Па вертыкалях:** 1. Какос. 2. Рабле. 3. Балід. 4. Адвар. 5. Парад. 6. Дымар. 8. Тыран. 9. Прыма. 14. Мустанг. 15. Рубікон. 17. Аперэта. 18. Алабама. 19. Арэна. 20. Гурба. 21. Ронда. 28. Самба. 29. Дарма. 30. Астма. 31. Есаул. 32. Тракт. 33. Таран. 34. Памор. 35. Зорка.

*НЯВЫДУМАНЫЯ ГІСТОРЫІ*

## Цяпер такога не здарылася б

Яшчэ задоўга да Кастрычніцкай рэвалюцыі маладыя мужчыны падаліся на заработкі за Выбарг. Уладкаваліся на заводзе. Калі ў першую суботу сабраліся ісці ў лазню, іх папярэдзілі: давядзецца мыцца разам з жанчынамі. Не спалохаліся, хаця былі родам з вёскі і ні разу не бачылі голых жанчын. Спачатку сароменліся, а пасля звыкліся з такімі парадкамі.

Дамоў хлопцы напісалі пісьмы і пра ўмовы працы, і пра заработкі, але ні слова пра такую незвычайную лазню ў Карэліі. Паехаў да сяброў хлопец з вёскі Мохавічы, уладкаваўся на працу, быў задаволены. Калі наступіла субота, землякі забыліся сказаць, у якіх умовах давядзецца мыцца.

Распрануўшыся ў прылазніку, навічок пераступіў парог і жахнуўся: голыя жанчыны! Абамлеў, адлілі вадой, апранулі і прывялі ў інтэрнат. Мохаўскі дзяцюк страціў сон, апетыт, схуднеў, прапала працаздольнасць. Гаспадару не патрэбны быў такі рабочы, звольніў. Перапалоханага хлопца землякі праводзілі дамоў. У Мохавічах ён доўга хварэў, сніліся жудасныя сны.

Цяпер у такой лазні наўрад ці хто страціў бы прытомнасць.

## Усе прамаўчалі

Па вёсцы Некасецк пранеслася навіна: з віленскай турмы вяртаецца сусед. Была нядзеля, і амаль усе жыхары прыйшлі на канец вёскі, каб убачыць свайго аднавяскоўца, які жытнёвыя снапы ад суседа перанёс на сваю палоску і схаваў па снапе ў кожнай бабцы (у бабкі снапы ставілі для прасыхання).

Экспрапрыяцыя была выяўленая, за што яе ініцыятар атрымаў некалькі месяцаў зняволення ў Вільні (падзея адбывалася ў 1938 годзе).

Вось паказаўся з–за пагорка былы вязень. Ён не разлічваў, што яго будзе сустракаць шмат народу. Збочыць з дарогі і схавацца ў кустах не рашыўся. Параўняўшыся з землякамі, спыніўся, зняў шапку, пакланіўся і сказаў: "Добры дзень, суседзі!"

Думаеце, што хтосьці адказаў на прывітанне? Стаяла цішыня, не гаманілі дзеці.

Вось якая была пагарда да тых, хто квапіцца на чужое.

*Міхась ЧАРНЯЎСКІ.*

*СМАЧНА ЕСЦІ*



## Запечаныя ў цесце шпроты

Цеста спатрэбіцца слоенае. Можна выкарыстоўваць дражджавое ці прэснае. Для прэснага на 2 шклянкі мукі сптрэбіцца 2/3 шклянкі вады, 1/4 маленькай лыжкі солі, 1 яйка, 1/4 маленькай лыжкі лімоннай кіслаты ці воцату.

Муку прасеяць і зрабіць у ёй заглыбленне. Сюды ўліць ваду, яйка, воцат (ці кіслату), усыпаць соль. Размешваць да стану эластычнай аднароднай масы, пакуль не перастане ліпнуць да рук і дошкі. Пакінуць пад сурвэткай на 20–30 хвілін.

300 г масла (ці маргарыну) размякчыць, дадаць 4–5 маленькіх лыжак мукі, добра перамяшаць, каб не было камякоў.

Цеста раскатаць. У цэнтр выкласці падрыхтаванае масла і зрабіць "канверт", швы якога трэба моцна пазашчэпліваць. "Канверт" шчодра абсыпаць мукой. Вельмі асцярожна раскатаць у пласт каля 1 см. Лішнюю муку зняць і скласці гэты пласт у чатыры разы. Пакінуць на 10–15 хвілін пад вільготнай сурвэткай. Пасля зноў раскатаць у муцэ, зноў скласці ў чатыры разы. Пакласці ў холад на 20 хвілін. Паўтарыце яшчэ раз, і будзе дастаткова.

Слоенае цеста апошні раз раскатайце ў пласт 4–5 мм. Нарэжце палосы, прыблізна па 10 см, па даўжыні шпротаў. Змажце палосы яйкам. Дайце алею сцячы са шпротаў і толькі потым выкладвайце паасобку на цеста.

Зверху накрыйце такім самым пластом і прыцісніце адзін да аднаго. Разрэжце на порцыі і запякайце ў духоўцы.

Такім чынам можна прыгатаваць сардзіны, міногі ці тое, што вам падабаецца.

*Святлана САРОКА.*

*САКРЭТЫ ДЭВІДА КОПЕРФІЛДА*

***Перш чым зрабіць чарговую спробу адгадаць сакрэты некаторых фокусаў Дэвіда Коперфілда, параю вам паглядзець іх па відэамагнітафоне з запаволеным узнаўленнем і выключаным гукам (апошняе для таго, каб не патрапляць пад прэс слоў Коперфілда, якія вельмі адцягваюць увагу).***

## Жамчужныя каралі

Калі вы зробіце так, як мы раім крыху вышэй, то добра ўбачыце, як жамчужыны выскокваюць у Коперфілда з–за вялікага пальца.

## Бярлінская сцяна

Усё, што малявалі на ёй – сапраўднае. Людзі вакол не «падсадныя». Але сутнасць у тым, што за заслонай сцэны памочнікі добрасумленна паўтаралі малюнак.

Затым галоўным было перадаць яго. Можна заўважыць, што калі Коперфілд лезе забраць нож для паперы, які ўваткнуты вельмі высока, ён у гэты час датыкаецца да сцяны і атрымлівае малюнак.

Такім чынам, ён бярэ паперу не з канверта, а з–пад яго.

## Пярсцёнак на красоўцы

Заўважце, што ўсе адбываецца на прыступках. Коперфілд акуратна ўпускае пярсцёнак, а памочнікі ў гэты час завязваюць яго на шнурках красоўкі.

*Сямён РАБІНОВІЧ.*

*РАСПАЎСЮДЖАНЫЯ ЗАХВОРВАННІ І СПЕЦЫФІЧНЫЯ СПОСАБЫ ІХ ЛЯЧЭННЯ*

# Адэноіды і міндаліны (павялічаныя)

Міндаліны выконваюць у арганізме ролю фільтра, які стрымлівае шкодныя мікробы і іхнія яды. Гэта першая лінія абароны арганізма, таму неабходнасць выдалення міндалін павінна быць зведзеная да мінімуму. Калі яны павялічваюцца, звычайна іх можна нармалізаваць натуральнымі сродкамі.

Лячэнне варта пачаць з 2–дзённага ўстрымання ад ежы – толькі сокі. Перад сном прыняць 1 маленькую лыжку настойкі рэвеню. Наступныя 5 дзён можна есці садавіну і ёгурт – і больш нічога, піць толькі гатаваную ваду. Для рэгулярнага ачышчэння кішэчніка можа запатрабавацца прыём дозы рэвеню праз кожныя 3–4 дні.

Паступова праз тыдзень рацыён можа быць пашыраны за кошт уключэння ў яго лісцевай і зялёнай агародніны кожны дзень, печанай у лупінах бульбы, цэльнага хлеба, невялікай колькасці тварагу, арэхаў, соі, сачавіцы і свежых яек. Цукар і цукеркі, шакалад, пірагі, булачкі і крухмалістыя прадукты павінны быць выключаныя. Салодкае замяніце мёдам і фінікамі, разынкамі; шмат садавіны і свежыя сокі павінны замяніць гарбату, каву і малако.

Часта бацькі моцна жадаюць бачыць сваіх дзетак укормленымі і прымушаюць іх піць шмат малака. Гэта неразумна, бо звышстымуляцыя арганізма ў перыяд яго росту вядзе да скарачэння жыцця. Акрамя таго, вялікая колькасць малака каровы павялічвае схільнасць да катараў (калі яна ўжо ёсць). Раслiннае (соевае) малако лепш. У мясных прадуктах няма патрэбы, іх лепей выключыць.

Ад раніцы і ўвечары горла трэба паласкаць цёплай вадой з лімонным сокам, невялікую колькасць яе можна праглынуць. Вельмі важна пастаянна дыхаць свежым паветрам, пазбягаць душных памяшканняў.

Неабходныя штодзённая фізічная нагрузка і працяглы сон. Перад сном змачыце ў халоднай вадзе абрэзак мяккай тканіны, старанна адцісніце яго, прыкладзіце да вобласці міндалін і нятуга перабінтуйце – гэтую павязку пакіньце на ўсю ноч.

*Канстанцыя МЭЛАР.*

*ГАРАСКОП 10 – 16 МАЯ*

**АВЕН (21.03–20.04)**
Добры дзень 19. Заваюеш павагу любімага чалавека і з годнасцю вырашыш крызісныя становішчы.

**ЦЯЛЕЦ (21.04–21.05)**
Сплануй будучую праграму дзеянняў, абапіраючыся на 10 біблейскіх запаведзяў.

**БЛІЗНЯТЫ (22.05–21.06)**
Кепскія дні 17-19. Не звяртай увагі на ўсялякія дробязі і ты такім чынам падрыхтуеш добрую глебу для будучых спраў.

**РАК (22.06–23.07)**
Важны дзень 18. Паспяховыя пачынанні ўздымуць твой настрой.

**ЛЕЎ (24.07–23.08)**
Будзеш задаволены і сабой, і акружаючымі.

**ДЗЕВА (24.08–23.09)**
Добрыя дні 19-21. Увесь час аддасі на ажыццяўленне творчых праектаў, таму сумаваць не давядзецца.

**ШАЛІ (24.09–23.10)**
Важныя дні 18, 19. Не забывайся пра фізкультуру і спорт,

**СКАРПІЁН (24.10–22.11)**
Добры дзень 17. Тыдзень схіляе да філасофскіх роздумаў пра сэнс жыцця і сваё месца ў ім.

**СТРАЛЕЦ (23.11–21.12)**
Важны дзень 21. Не спяшайся нават у малых пачынаннях.

**КАЗЯРОГ (22.12–20.01)**
Кепскія дні 21-23. Праявіш імпульсіўнасць у зносінах з роднымі і блізкімі.

**ВАДАЛЕЙ (21.01–19.02)**
Важны дзень 18. Праніклівасць і гібкасць розуму дапамогуць выйсці з шэрагу складаных становішчаў.

**РЫБЫ (20.02–20.03)**
Кепскі дзень 20. Займіся самааналізам у аўторак ці чацвер.

*ШКОЛА*

## Часцей бы...



*Тры Наташы (Дарашэнка, Смятанка і Барада) на адзін дзень сталі завучамі,*

ФОТА З АРХІВА ШКОЛЫ.

МАЛАДЗЕЧНА. У мясцовай СШ №9 быў дзень самакіравання. У настаўнікі падаўся ўвесь 11«Б». «Дырэктар» школы Сяргей Гайдукевіч ганяў з–пад сцен школы курыльшчыкаў, якія з'яўляліся там, натуральна, пасярод урокаў.

Асабіста мне падалося, што быць настаўнікам прасцей, чым вучнем. Лічу, што такія дні ў школе трэба праводзіць часцей, бо яны даюць магчымасць двоечнікам выправіць адзнакі.

*Таццяна МІР.*

